# Наша віктарына

Разьдзел IV.

1. Чаму зімой пацеюць вокны?
2. Дзе ў СССР здабываюць каменны вугаль?
3. Крык якой птушкі падобен на плач дзіцяці?
4. Чаму вайсковую стрэльбу называюць вінтоўкай?
5. На якім паўвостраве знаходзіцца Татарская рэспубліка?
6. У якой краіне радзіўся К. Маркс?
7. Чый твор „Правонарушители“?
8. Што такое „мэтад заданьняў“?
9. Калі ўтварылася Беларуская Савецкая Рэспубліка?
10. Чаму сьвяткуюць 1-е мая?
11. Якая і дзе ў БССР будуецца магутная электростанцыя?
12. Што азначае слова „піонэр“?
13. Хто такі Тарас Шаўчэнка?
14. Што такое працівагаз?
15. Што такое маланка?
16. Які лес называецца борам?
17. З чаго робяць шоўк?
18. Які галоўны цэнтральны горад Украіны?
19. Чаму дрэва не тане ў вадзе?
20. Што азначае новы і стары стыль каляндара?

## Адказы на разьдзел 3-ці.

1. У дарослага—32.
2. 20—22 сьнежня.
3. Бо лёд не дапускае марозу ў глыб ракі.
4. Юны натуралісты.
5. 33.
6. Не. Сьвітка толькі можа затрымліваць уласнае цяпло чалавека і не дапускаць знадворнага холаду.
7. Антось Васільлевіч Баліцкі.
8. У казцы Я. Коласа „Рак Вусач“ (гл. Б. П. за 1926 г.).
9. М. Зарэцкі (надрукаваны ў часопісе „Полымя“ за 1927 г.).
10. Паўнамоцны прадстаўнік СССР у Польшчы.
11. „Юный Строитель“.
12. Таму, што рэйкі часткова награваюцца ад руху цягніка і праз гэта пашыраюцца.
13. Бічэр-Стоу.
14. Не.
15. Тым, што жывуць яны зблізку ад будынкаў і зьнішчаюць розных шкоднікаў нашых палёў, агародаў.
16. У норах.
17. Ён зімой увесь час сьпіць, а ад гэтага трацiцца вельмі мала энэргіі. Таго, што ён нагадуе за лета, хапае на ўсю зімовую сьпячку.
18. У г. Сімбірску.
19. Зязюля.
20. Шостую.

## ЗЬМЕСТ.

*Год выданьня 4-ы.*

**Да змаганьня за справу працоўных—будзь гатоў!**




**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**
На 1 месяц . . . — р. 20 к.
„ 3 „ . . . — р. 60 к.
„ 6 „ . . . 1 р. 20 к.

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ. Орган ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
МЕНСК,
Комсамольская, 25.

**№ 7** **КРАСАВІК** **1928 г.**

# Поэта-рэволюцыянэр.

*(Да 10-годзьдзя літаратурнай дзейнасьці М. Чарота).*

Нарадзіўся Міхась Чарот 7-га лістапада 1896 г. ў в. Рудзенск (Чэрвеншчына). Сапраўднае прозьвішча яго Кудзелька. Бацька яго—малазямельны селянін. Сям'я будучага песьняра была вялікая, жылося цяжка, перабіваючыся сяк-так з году ў год. Зразумела, каб мець хоць хлеб, трэба было працаваць усёй сям'і, не пакладаючы рук, і малы Міхась побач з усімі нясе пэўную частку агульнай працы ў гаспадарцы: у дзень—на полі, сенажацi, а ўначы—на начлезе, што было для яго вялікай прыемнасьцю. Бацька песьняра, хоць і быў сам няпісьменны, але разумеў, што трэба сына вучыць, бо дробная гаспадарка ня можа ўсіх пракарміць, трэба будзе шукаць кавалка хлеба на старане, а няпісьменнаму знайсьці яго цяжка. Дзеля таго, што ў вёсцы школы ня было, прышлося наняць да сына „дарэктара" (такога „дарэктара" Якуб Колас намаляваў у адным з разьдзелаў „Новай Зямлі"), у якога і навучаўся ў першыя часы Міхась Чарот; праз некаторы час ён паступіў у двохклясавую школу, якая знаходзілася за пяць вёрст ад яго роднай вёскі. Бацька лічыў, што ўжо для сына даволі навукі, але здольнага юнака пацягнула вучыцца далей. Міхась едзе трымаць экзамэн у Маладэчынскую настаўніцкую сэмінарыю. Сэмінарыю ён скончыў у 1917 г., пасьля чаго адразу-ж забралі яго на вайсковую службу ў часы керанщчыны. Адсюль пачынаецца бадзяньне Міхася Чарота па Украіне і Расіі, дзе ён знаёміцца з рэволюцыйным рухам і прымае ў ім удзел. Вярнуўшыся на Беларусь, Чарот знаёміцца з беларускай літаратурай і друкуе свае першыя вершы. За 10 гадоў М. Чарот напісаў шмат поэм, вершаў, апавяданьняў, п'ес.



У дзень дзесяцёхгодзьдзя слаўнай творчай працы песьняра-рэволюцыянэра наша гарачае піонэрскае прывітаньне яму!



# ХТО ВАСКРОС?

Цягнецца зіма, халодная, галодная. І чалавеку хлеба не хапае, і скаціне корму. Сьпіць зямля скамянелая, загінула расьліннасьць. Сонца пашло недзе далёка, ня грэе і нават сьвеціць рэдка. Уся прырода нібы мёртвая. Чакае не дачакаецца чалавек, калі ўсё гэта скончыцца, калі зноў васкрэсьне прырода.

Чакаем мы і цяпер, чакаў таксама чалавек і тысячы гадоў назад. Толькі цяпер мы добра ведаем, калі, чаму і як гэта адбываецца, ведаем ужо нябесную мэханіку, а тады чалавек нічога гэтага ня ведаў. Чаму сонца ўходзіць ад нас? А што будзе, калі яно сёлета ня вернецца? Ці не раззлавалася яно на нас? Яно-ж наш бог, ад яго залежыць усё нашае жыцьцё,—і вось чамусьці зробіцца нешта незразумелае.

Чакаў старажытны чалавек звароту сонца, спадзяваўся, што яно і сёлета вернецца, як і летась, але ўсё-ж такі ня быў у гэтым упэўнены. А ліха яго ведае, што яму можа прысьці ў галаву. А тут яшчэ розныя знахары, жрацы кажуць, што справа гэта зусім ня простая, што трэба знаць, як абыходзіцца з гэтым богам, трэба ведаць яго характар, усе яго сямейныя справы, трэба ўмець падыйсьці да яго. Толькі яны адны ведаюць, як гэта рабіць, таму і трэба іх шанаваць.

Адным словам, справа складаная і няпэўная. Але-ж затое колькі радасьці было, калі сонца варочалася, калі прырода васкрасала! Нават і мы ўсе адчуваем радасьць і нейкі сьвяточны настрой, калі прыходзіць вясна, а што павінны былі адчуваць цёмныя першабытныя людзі? Зразумела, яны лічылі гэты час сваім найвялікшым сьвятам, прыносілі літаснаму богу ахвяры—яйкі, тварог і інш.

Але разам з гэтым чалавек заўсёды цікавіўся даведацца, у чым тутака справа, чаму і як прырода то памірае, то васкрасае? І кожны народ тлумачыў гэта, як умеў. Не ад усіх народаў дайшлі да нас гэтыя тлумачэньні, бо тады вельмі мала было такіх, што ўмелі пісаць. Але ўсё-ж такі ведаў такіх дайшло да нас досыць, пачынаючы гэтак гадоў за 6000 да нашага часу.

Возьмем, напр., старонку Эгіпет, у Афрыцы, па рацэ Ніле. Тамака прырода памірае не ад холаду, але ад гарачыні, калі ня бывае вады; а васкрасае, калі ад дажджоў разальлецца р. Ніл, і залежыць гэта ад таго-ж самага бога-сонца, якога яны называлі Озірысам. І вось склалася гісторыя, як гэтага Озірыса штогод забівае злы бог Тот, але штогод Озірыс васкрасае, варочаецца да людзей і прыносіць ім збавеньне ад галоднай зімы.

Што было-б, калі-б хто-небудзь сказаў тагочаснаму эгіпцяніну, што ўся гэта гісторыя зьяўляецца казкай, байкай? Ды тое самае, што й цяперака, калі сказаць шчыраму хрысьціяніну, што васкрасеньне Хрыста таксама байка.

У Бабілёне, у Азіі (цяпер Мэсопатамія, дзе рэкі Тыгр і Эфрат), такім самым чынам васкрасаў бог Мардук, у азіяцкага народу фрыгійцаў—Адоніс, у рымлян—Мітра і г. д. і, нарэшце, у яўрэяў у Палястыне—Хрыстос.

І кожны з гэтых народаў лічыў, што гісторыя з яго богам ёсьць самая праўдзівая. Калі мы паглядзім на карту, дык заўважым, што ўсе гэтыя народы жылі блізка адзін ад аднаго. Вось чаму і ўсе гісторыі падобны між сабой. Пры гэтым яны ўсе вельмі старадаўныя. Пазьнейшая з іх аб Хрысьце мае каля 2000 год.

Нашаму цёмнаму народу з дзяцінства ўбілі гісторыю аб Хрысьце, і людзі яшчэ цяпер трымаюцца яе. А каб трапіла да нас гісторыя пра якога-небудзь Мардука,—дык трымаліся-б яе, яго і лічылі-б найпраўдзівейшым богам і таксама верылі-б, што ён васкрос. Вось чаму ўсе больш-менш вучоныя і проста сьвядомыя людзі, як у нас, таксама і ў Эўропе, даўно пакінулі ўжо веру ў гэтых багоў, іх васкрасеньне і г. д.

Ад таго часу, калі, як кажуць, жыў Хрыстос, засталіся розныя кнігі, дзе апісваюцца ўсе падзеі таго часу: аб царох, войнах, тагочасных гарадох, земля-

*(Працяг глядзі на стар. 4).*



# МЫ ПАТРАБУЕМ!

**ТАВАРЫШЫ** бацькі і маткі, **ШАНОЎНЫЯ** дзяды і бабулькі, **ГРАМАДЗЯНЕ** цёткі і дзядзькі,

даволі зьдзекавацца над намі! Мы, вольныя дзеці Кастрычніка, **ПАТРАБУЕМ** аховы дзяцей!

**ЧАМУ**

**вы нас хрысьціце?**
**вы нас спавядаеце?**
**вы нас цягаеце ў цэркаў?**
**прывучаеце маліцца,**
**хрысьціцца, верыць у**
**бога—Саваофа, Іягову, Магомэта?**

**ГЭЙ, БАЦЬКА,** **ты ні разу не сказаў бабулі, каб яна не цягала мяне ў цэркаў!**

**І ТЫ, МАТКА,** **ці ты хоць раз напомніла дзеду, каб ён перастаў мне барабаніць пацеры?**



МЫ ПАТРАБУЕМ

яcьляў, дзіцячых садоў, дзіцячых дамоў, школы, вучобы.

Мы хочам з самых сваіх малых дзён быць дзецьмі, дастойнымі вялікага Кастрычніка.

трасеньнях, жыцьці людзей ў той час і г. д. Пішацца пра Эрусалім, дзе нібы адбылася ўся гісторыя з Хрыстом, але вось цікавая рэч: нідзе аніводнага слова аб такой нязвычайнай рэчы, як васкрасеньне Хрыста. Няўжо-ж ніхто гэтага не заўважыў і ня чуў у той час?

Каб такое нязвычайнае здарэньне адбылося ў сапраўднасьці, дык аб гэтым загулі-б ва ўсім сьвеце. А тутака, бачыце, ня толькі тады ня ведалі, але ня ведалі яшчэ ў працягу 150—200 гадоў пасьля гэтага „васкрасеньня“. І толькі пасьля гэтага часу зьявілася галоўная кніга хрысьціян—эвангельле.

Трэба памятаць, што тады ня было ні газэт, ні часопісяй, ня было аб гэтым часе і ніякіх кніг,—і вось спрабуйце гэткім чынам апісаць кожны крок і словы чалавека, які жыў 2000 год назад!

Васкрасеньне Хрыста, Озірыса, Адоніса, Мітры і г. д. зьяўляюцца казкамі вельмі карыснымі для навукі. Яны паказваюць, як старажытны народ глядзеў на незразумелыя для яго зьявы прыроды, як ён запазычваў адзін у аднаго казкі, перайначваў іх згодна сваім умовам жыцьця, якія зносіны былі між народамі і г. д.

Але шкада глядзець на людзей, якія і цяпер вераць у гэтыя казкі таксама, як тысячу год назад.

Можа паўстаць такое пытаньне: калі так, дык чаму-ж гэта казка аб Хрысьце больш за ўсіх пашырана і трымаецца да гэтага часу?

Тлумачыцца гэта вельмі проста. Хрысьціянская вера навучае:

„Будзь пакорны, слухай сваіх паноў“.
„Даруй таму, хто цябе крыўдзіць“.

„Калі цябе хто-небудзь ударыць у адну шчаку, падстаў яму другую“.

„Шчасьлівыя беднякі, бо яны на тым сьвеце будуць у раі“.

„Хто супярэчыць цару, той супярэчыць самаму богу“ і г. д., і г. д.

Адразу відаць, што такая рэлігія вельмі карысна... для паноў. Калі народ будзе слухацца паноў, цароў, будзе радавацца, што ён бедны, будзе аддаваць апошнюю кашулю, падстаўляць другую шчаку—тады для паноў будзе сапраўдны рай. Самі паны гэтага ня робяць, бо яны больш вучоныя, самі яны ня вераць у Хрыста, але народ яны вельмі старанна навучалі і навучаюць нават гвалтам верыць.

Такім чынам, мы бачым, што ў гэтай нібы надзвычайна вялізнай таемнай складанай сьвятой справе ляжаць дзьве маленькія і прасьценькія рэчы: звычайная казка і інтарэсы тых, хто іх выкарыстоўвае.

А сьвяткаваць вясну мы і бяз гэтага можам. Для гэтага ў нас ёсьць сьвята 1-га мая. Замест нейкага там Мардука, Озірыса ці Хрыста мы можам шанаваць усясьветны пролетарыят. Ён васкрасіць зямлю лепш за якога там Мітру.

Рабочы народ сваімі рукамі лёгка створыць сабе рай на зямлі, а рай на тым сьвеце хай бяруць сабе паны.

Я. М.



# Пастушок

*Верш* **К. Шавеля.** *Малюнкі* **Я. Кашкеля.**

I.

Шапацяць калосьсі, рыпаюць вазы:
Мне даўно знаёмы і прывабны зык.
Жнуць сяляне жыта—звоніць серп крывы,
А у межах чутны шопаты травы.

Рэчкай песьня льлецца жаўрыка з гары;
Залатое сонца чырваньню гарыць.
Неба, быццам мора—сіняе, як шкло.
Гай зялёны лету шчыры шле паклон.

Ня ўзыходзіць сонца, птушкі не пяюць,
Як Алесь на плечы торбачку сваю
Адзяе і пугай: „гэй, сюды, Рабы!"
Ён заўсёды ў поля першым госьцем быў.

Ўстаць з пасьцелі цяжка—пяць хвілінаў ноч,—
І Алесь падняцца заўжды не ахвоч.
Але бацька злосны будзіць: „уставай!"
Тут Алесь што хочаш мог-бы даравадь,

Каб паспаць хвілінку, каб паспаць адну,
Ды крычыць татуля: „Зараз як утну,
Тым балючым паскам!" І Алесь ўстае,
З конаўкі вадзіцу тут на твар ліе.

А пасьля вадзіцы не захочаш спаць;
І Алесь гатовы быдла ў поле гнаць.
Ах, як сумна ў полі аднаму сядзець,
Ды сачыць за сонцам—ці мінае дзень.

Сонейка-ж паволі хіліцца, плыве,
Расьсьцілае косы на мурог-траве.
Вось і вечар росны цемнату паклаў:
Наш Алеська гоніць быдла да сяла.

Кінецца ў пасьцельку, сьпіць, як няжывы,
Сьніцца гай зялёны, шэлесты травы.

II.

Восем год Алесю, толькі восем год,
А ўжо тры мінула як ён пастухом.
Ня любіў сяброўства: лепей аднаму,—
Упікалі хлопцы „байструком" яму.

І Алесь так часта сам сабе казаў:
„Ну, ці вінават я?" (капала сьляза).
Ўспамінаў матулю родную сваю.
А у небе птушкі ўсё пяюць, пяюць...

Ён любіў над рэчкай сесьці ў летні дзень,
Слухаць, як вадзіца між кустоў гудзе.
Ён любіў у полі бачыць Пятрука;
Удваіх садзіліс, дзе шуміць рака.

Гаварылі доўга—весела было.
Рассыпала сонца на вадзе сьвятло.
— Ну, чаму адзін ты быдла тут пасеш?
І чаму ня там ты, дзе хлапцы усе?

Гэтак у Алеся Пятручок пытаў.
— Б'юцца тыя хлопцы, дрэнна пасьвіць там.
Толькі ты у сьвеце лепшы сябар мне,
Як з табой спаткаўся, ў сэрцы стала днець!

— Дзе-ж мае каровы?
— Бачыш, ходзяць вунь.
А пакуль бывай, брат, я іду ў траву,—
Мачыха ўзлуецца, будзе біць мяне!






І Пятрук, як заяц, у кустох зьнікаў,
Толькі бязупынна булькала рака.

III.

Вось прышла і восень. Гусі ў небе вунь,
Парыжэўшы, лісьці сыплюцца ў траву.
Нясупынна песьню гусі льлюць згары.
Да заняткаў стала толькі тыдні тры.

І Алесь так часта ў бацькі ўсё пытаў:
— Ці пайду я ў школу?
— Што ты ўбачыш там?
Без цябе жыць будуць! Быдла вось пасі!
І таму ня плакаць не хапала сіл.

І як ля магілы быдла гнаў Алесь,
Дык дрыжэў ад страху ён, бядак, увесь.
На магілку гляне, матка дзе ляжыць—
Пахілілісь сумна на зямлю крыжы.

„Ну, на што ўсё гэта—помнікі, крыжы?
Не забуду маму, колькі буду жыць!
Вось праклятты бацька, ах ды гора мне“.
Шкадавала-ж матка, як жыла, мяне“.

І Алесь вось гэтак думаў кожны раз:
„Пойдзе вось у школу Петрык, Апанас.
Толькі я дык буду ў полі ўсё сядзець.
Ды глядзець, як плача шэры, сумны дзень

Будзе што—дык што-ж там: уцяку вазьму!
Але буду ў школе ў гэтую зіму.
Петрыку вось добра, маткі хоць няма,.
Але бацька добры, з ім яшчэ дарма“.

З новай думкай быдла ён да вёскі гнаў,
З вечарам спаткаўся ля свайго гумна.

IV.

Праляцелі тыдні, ў школу йсьці пара.
І вось неяк рана, у нядзельку раз.
Выгнаў Алесь быдла, кінуў у палёў,
Ну, а сам у школу кінуўся ў галёп.

Запісаўся ў школе і бягом назад,
Кінуўся за гумны і шчасьліў і рад.
Будзе, пэўна, кепска, але ўсё зьнясу.
Зьнікла ў хлопца раптам і туга і сум.

Запявае песьню: „Між балот, палёў“—
А васеньні вечар на абшары лёг.
Вось прыгнаў Алесь наш быдла ўжо дамоў.
Каля бацькі моўчкі ён не абышоў:

— Запісаўся ў школу сёньня, тата, я!
Шчырванеўся бацька—злосны, як зямля.
— Убірайся з хаты непаслушнік, гад!
Надышоў на сварку тут сусед Ігнат.

— Ты чаго крычыш так, аж дрыжыць сьцяна?—
— Я яго чуць з хаты тут вось не пагнаў!
Запісаўся ў школу без дазволу ён!
— Кінь, Кандрат, на тое-ж ён дзіця тваё!

Трэба-ж, брат, вучыцца, цяжка без навук,
Запісаўся ў школу сёньня й мой Пятрук.
Мачыха дык супраць, я-ж кажу: „Маўчы!“
Дык і ты, Кандраце, дарма ня крычы!

— Ды няхай так будзе, хай сабе й дарма,
Але хутка прыдзе лютая зіма:—
Не спляту як лапцяй, вопраткі ня дам,
Дык ня будзе мейсца шараваць ён там!

V.

Вось зіма і сьцюжа, пабяліўся дол,
Завіруха плача, гурбы навакол.
Дрэнна жыць Алесю, як там ні круці;
Не хацеў татуля лапцікаў сплясьці.

Ногі у анучы увёртаваў Алесь
І так бег у школу, калаціўся ўвесь.
Не пасьпелі ў пору ратаваць хлапца:
Захварэў ён цяжка у зімовы час.

Вецер ціха войкаў, чуўся плач бяроз,
Як Алеся бацька у бальніцу вёз.
Ах, бядак Алеська, дрэнна табе жыць!
Прывітаюць хутка мо' цябе крыжы...

Не аслабнеш духам! Ачуняеш, брат!
Што ты гэта робіш, цемната—Кандрат!?

VI.

У бальніцы страшна, страшна аднаму.
Ўспаміналась матка часта тут яму.
Вось ляжыць і бачыць:—злосны чалавек...
Гэта быў паляк той, матку што засек.

А пасьля ляціць ён зьверам на яго,
А такі паскудны, а такі ня гож!
І Алесь ад страху моцна закрычаў.
Падыйшла сястрыца да яго ў той час:

— Ты чаго, галубчык, так крычыш цяпер?
— Ой, людцы, ратуйце, то-ж паляк, як зьвер!
— Гэта так здалося, тут няма яго!
Гэта ад гарачкі ў галаве агонь...

. . . . . . . . .



Перасталі ветры у завульлі выць,
Чутны зноў у полі шэлесты травы.
І Алесь у поле выгнаў быдла зноў,
А у сэрцы радасьць, а ў душы ня ноч.

Пекны гальштук зьзяе, на грудзёх значок,
Шчасьце маладое у яго вачох.
Лепшы стаў і бацька, злосна ня крычыць,
Перастаў Алеся тоўстым паскам біць.

Бо ня раз настаўнік гэтаю зімой
Гаварыў Кандрату: „Ўдалы хлопец твой!"
І ня камень сэрца—зьлітаваўся ён.
Зіхаціць у полі радасьць сьветлых дзён.






Апавяданьне **Э. Сэтон-Тампсона** *).

Малюнкі **А. Тычыны.**

Разьдзел IV.

К пачатку васеньніх халадоў Ціто мела ўжо вялікія посьпехі. Цяпер яна па ўсіх сваіх адзнаках была падобнай на звычайнага дзікага кайёта, і сьмялей сьпявала сваю вячэрнюю песьню.

Аднаго разу, у сьветлую месячную ноч, пачуўшы такую песьню, яна адгукнулася на голас свайго родзіча і неўзабаве ўбачыла вялікага цёмнага кайёта. Ён асьцярожна падыходзіў к Ціто. Грыва Ціто ўзьнялася дубка. Яна прыпала к зямлі і пачала чакаць. Незнаёмец рашуча наблажаўся. Уцягваючы носам паветра, ён кіраваўся проста, па ветру, да яе. Пасьля ён абышоў кругом яе, так, каб яна магла пачуць яго пах, і прыветна памахаў хвастом. Такое абыходжаньне азначала ні што іншае, як доказ сяброўства; Ціто ўзьнялася, памахала абрубкам свайго хваста, і знаёмства адбылося.

Ранейшы незнаёмец быў вельмі вялікім кайётам, амаль удвойчы большым за Ціто, а цёмная паласа на яго сьпіне была гэткай шырокай і чорнай, што пастухі, якім даводзілася бачыць яго, празвалі яго Асядланым. З гэтага часу новыя сябры пачалі жыць большай часткаю разам. Гэта ня значыць, што яны заўсёды былі адзін каля другога; не, іншы раз на цэлы дзень іх падзялялі некалькі міляў, але, калі прыходзіла ноч, адзін з іх заўсёды ўзлазіў на які-небудзь узгорак і сьпяваў моцна;

Іап-іап-іап-іоу-оу-уyy-yyy-yyy...

Пасьля гэтага яны спатыкаліся ў якім-небудзь бліжэйшым ляску.

Асядланы быў дужэйшы за Ціто, але яна была больш адукаванай і разумнай і хутка зрабілася павадыром; ня мінула і месяца, як спачатку адзін кайёт, а пасьля яшчэ два далучыліся да іх і сталі членамі гэтага вольнага саюзу.

Маленькі з адсечаным хвастом кайёт уладаў значнаю перавагаю ў сэнсе ведаў над другімі, якія далёка менш мелі практычнага вопыту. Ціто ведала, як весьці барацьбу з хітрасьцю людзей. Яна не магла-б выказаць гэтага словамі, але паказвала на прыкладзе. Хутка кайётам стала ясна, што яе спосаб наладжваць паляваньне быў найбольш лепшым, таму што, калі яны ішлі без яе, дык ім амаль заўсёды не шанцавала.

У аднаго суседняга фэрмэра было дваццаць авец. Статак вартаваў вялізны і злосны сабака. Аднойчы зімою два кайёты папрабавалі зрабіць напад на гэты статак, але справа скончылася тым, што аўчарка добра патармасіла іх.

Праз некалькі дзён статак поцемкам гналі дамоў. Да гэтага часу ніхто ня ведае добра, як Ціто зрабіла тое, што зда-

*) Гл. „Б. П." № 6.

рылася. Ясна толькі, што яна была кіраўніком. Кайёты схаваліся ў лазьняку, а Асядланы, сьмелы і бойкі, пайшоў проста на авец і моцна забрахаў, выклікаючы гэтым ворага на бойку. Аўчарка скокнула наперад са злосным бурчаньнем і, убачыўшы ворага, пачала кідацца на яго.

Асядланы то падпускаў да сябе сабаку гэтак блізка, што ён амаль мог схапіць яго, то зноў адскакваў, і гэткім чынам заманіў сабаку далёка ў лес, а ў гэты час іншыя кайёты разам з Ціто на чале разагналі статак ва ўсе бакі і разарвалі некалькі штук авец, пакінуўшы іх на месцы.

Упоцемку сабака і яе гаспадар ледзь сабралі рэшту авец. На другі дзень яны даведаліся, што чатыры авечкі з статку былі загнаны далёка і разарваны, а кайёты наладзілі сабе ўночы раскошны баль.

Пастух пасыпаў рэшту мёртвых цел атрутаю і пакінуў іх так ляжаць. На другую ноч кайёты зноў вярнуліся да сваіх ахвяраў. Ціто панюхала замёрзлае мяса, адчула пах атруты і з перасьцярогай для ўсіх пачала закідаць мяса гразёю, каб ніхто з яе таварышоў не атруціўся ім. Між іншым, адзін, найбольш прагны, не паслухаў Ціто і накінуўся на мяса. Хутка ўсе кайёты пакінулі гэта месца, а ён адзін астаўся на сьнягу мёртвым.

## Разьдзел V.

Джэк чуў цяпер скаргі з усіх бакоў, што кайёты сталі проста нявыноснымі. Ён рашыў сур'ёзна ўзяцца за работу і пастарацца пры дапамозе капканаў і атруты зьнішчыць хоць тых з іх, якія жылі па берагох верхняй Крыніцы. Кожную вольную хвіліну ён скарыстоўваў для таго, каб павандраваць з сабакамі па Малой Місуры. Ён правёў у вандраваньні цэлую зіму і меў посьпехі: забіў пару шэрых ваўкоў, апошнюю з гэтай пароды, як ён гаварыў сам, і некалькі кайётаў, з якіх некаторыя, бясспрэчна, належалі да саюзу Ціто.

У гэту зіму адбылося цэлы шэраг набегаў, нават выдатных, з боку кайётаў. Сьлед на сьнягу заўсёды паказваў, што павадыром чарады кайётаў быў маленькі куцы кайёт.

Адзін з такіх нападаў выклікаў шмат спрэчак і гутарк. Аднойчы пад вечар песьня кайётаў пачулася зусім блізка ад фэрмы Чымней-Пот. Тузін сабак адказаў на яе звычайным выцьцём. У тым напрамку, адкуль вылі кайёты, кінуўся бультар'ер, таму, што толькі ён адзін ня быў на ланцугу. Але ён не знайшоў кайётаў і, злосна буркаючы, вярнуўся дамоў.

Праз дваццаць хвілін ужо зусім блізка пачулася новае выцьцё кайётаў. Бультар'ер зноў кінуўся ў цемру. Праз хвіліну яго ўсхваляванае яхканьне паказвала, што цяпер ён натрапіў на сьлед. Ён ляцеў наперад датуль, пакуль голас яго ня згубіўся ўдалі.

Назаўтра раніцай людзі прачыталі на сьнягу гісторыю ночы.

Першы раз кайёты засьпявалі сваю песьню для таго, каб даведацца, ці ўсе сабакі спушчаны з ланцугоў: і, даведаўшыся, што на волі быў толькі адзін, узяліся за работу. Пяць кайётаў прытуліліся ля тэй сьцежкі, якую яны пратапталі, ідучы на фэрму, а адзін вышаў наперад і завыў. Гарачы бультар'ер выскачыў на яго голас, і кайёт, адступаючы, завёў яго ў засаду. Што мог зрабіць ён адзін супроць шасьці?

Кайёты разарвалі яго на часткі і зьелі.

Гэта здарылася якраз на тым самым месцы, дзе ён калісьці напаў на Ціто. І калі ў наступную раніцу людзі разгледзелі сьляды, яны пераканаліся, што ўсё было зроблена па пэўнаму пляну і што тут не абышлося бяз хітрага маленькага Ціто.

Фэрмеры былі вельмі абураны. Лінкольн чуць не зьбянтэжыўся ад злосьці. А Джэк заўважыў: „Я ўпэўнены, што гэта наша Ціто расправілася з бультар'ерам.

## Разьдзел VI.

К вясьне сяброўства Ціто і Асядланага яшчэ больш узмацнілася. Кайёты, зразумела, не даюць адзін другому імён, як людзі, і Ціто і Асядланы ня звалі адзін другога „мужыком“ і „жонкай“, але ў іх быў кароткі гук, накшталт кароткага завываньня, якім яны заўсёды клікалі адзін другога.

Вольны саюз кайётаў раскідваўся цяпер сам сабой, бо вясной уся чарада разьбілася па пары і, апрача таго, цяпер зьявілася гэтулькі дзічыны, што зусім не

патрэбна было наладжваць паляваньне чарадою.

Звычайна кайёты ня сьпяць у пяшчэрах, альбо якіх-небудзь другіх пэўных месцах. Яны ўсю ноч навылет вандруюць з месца на месца, а ўдзень сьпяць некалькі гадзін на сонечным баку якой-небудзь горкі. Але з вясны іх уклад жыцьця мяняецца.

Калі дні сталі цяплей, Ціто і Асядланы пачалі рыхтаваць бярлог для сваёй будучай сям'і. На схіле аднэй маленькай сонечнай горкі знайшлі яны старую нару барсукоў, вычысьцілі, пашырылі і паглыбілі яе. Накідаўшы ў яе кучу травы і лістоў, яны зрабілі з яе досыць прыгожае сабе памяшканьне. Гэта памяшканьне было ў сухім сонечным кутку, які ўтварыўся ад двух узгоркаў.

Ціто амаль увесь свой час праводзіла паблізу ад сваёй новай хаты. Асядланы звычайна прыносіў ёй яду, але іншы раз і сама яна выходзіла на паляваньне ў суседнюю вёску на сусьлікаў. Гэта было тое самае месца, на якое Ціто наскочыла ў той дзень, калі атрымала сабе волю і страціла хвост. Калі-б яна мела здольнасьць аддавацца ўспамінам, яна-б, зразумела, сьмяялася цяпер з сябе,—гэтакай дурной была яна тады. Наколькі хітрэйшай і вопытнейшай стала яна на гэты час.

Адзін з сусьлікаў выкапаў сабе норку ў баку ад другіх: норка ў яго была досыць прыгожай і прыкладнай для другіх.

Аднаго разу Ціто ўбачыла, што гэты сусьлік вылез і шчыпле сабе траву так, у шагох дзесяці ад сваёй норкі.

Злавіць сусьліка, калі ён адзін, зразумела, куды лягчэй, чым тады, калі ён знаходзіцца ў сваім пасёлку. Гэта таму, што ў аднаго сульліка толькі адна пара вачэй, якімі ён можа наглядаць за ўсім навокал, а ў пасёлку гэткіх вачэй шмат.

Ціто парашыла выкарыстаць такі выпадак. Але як распачаць справу, калі навакол няма ніякай заслоны, апрача нізенькай травы?

Белы мядзьведзь ведае, як падступіцца асьцярожна к цюленю на плоскай лядзіне, і індзеец умее зусім блізенька падысьці к лані, што пасецца ў стэпу. Ціто таксама ведала, як дзейнічаць.

Сусьлік бачыць добра толькі тады, калі сядзіць на задніх нагах: яго вочы



*Пяць кайётаў прытулілася ля сьцежкі, а адзін вышаў наперад і завыў.*

мала дапамагаюць яму, калі ён уткнецца ў траву. Ціто гэта ведала.

Жаўтавата-шэрая жывёла на жаўтавата-шэрым пяску і траве рабілася прыкметнай толькі тады, калі яна варушылася. Ціто ведала і гэта.

Ітак, не стараючыся нават асабліва хавацца, яна ціханька пайшла к сусьліку, трымаючыся супроць ветру для таго, каб увесь час можна было чуць пах ад сусьліка. Як толькі яе ахвяра пасунулася наперад, трымаючы штосьці ў пярэдніх лапах, Ціто замерла на месцы. Але трэ,

было толькі сусьліку зноў уткнуцца галавой у траву, як яна рашуча пайшла наперад, наглядаючы за кожным рухам зьвярка, каб зноў замерці на месцы, калі сусьлік падніме галаву.

Раз ці два сусьлік трывожна аглядваўся, але, не заўважыўшы нічога, паранейшаму шчыпаў траву. Адлегласьць паміж Ціто і ім хутка скарацілася да дзесяці, а пасьля і да пяці шагоў, а сусьлік усё яшчэ нічога не заўважаў. Нарэшце, Ціто скокнула з усяе сілы і схапіла неасьцярожнага сусьліка сваімі гострымі зубамі...

## Разьдзел VII.

Далёка ня ўсе прыгоды Ціто канчаліся так добра. Аднойчы яна ледзь не злавіла была маленькую анцілопу, але на паратунак дзіцяці зьявілася матка і капытом чуць не праламала Ціто галаву. Ціто ніколі ўжо больш не паўтарала гэтай памылкі—у яе прапала назаўсёды ахвота лавіць анцілопаў.

Раз ці два ёй даводзілася ратавацца і ад грымучай зьмяі, некалькі раз паляўнічыя стралялі ў яе. Але больш за ўсё даводзілася ёй асьцерагацца ад ваўкоў. Шэры воўк шмат большы і дужэйшы за кайёта, але затое кайёт баржджэй бегае і заўсёды можа выратавацца ад ваўка пры ўмове, калі гэтаму спрыяе мясцовасьць. Куды страшней было спаткацца з шэрым ваўком у якім-небудзь завулку.

У Ціто была дзіўная прывычка, якая іншы раз наглядаецца ў шэрых ваўкоў і кайётаў,—цягаць у роце, невядома для чаго, на працягу цэлых міль розныя рэчы, якія ня ўжываюцца для яды. Шмат разоў бегала яна трушка, мілю ці дзьве трымаючы ў зубах стары рог буйвала ці выкінуты стары бот, для таго толькі, каб пакінуць іх, калі што-небудзь другое пападзецца на зубы. Пастухі, заўважыўшы гэту прывычку, тлумачылі яе тым, што ваўкі робяць гэта для практыкаваньня, як людзі, што носяць розныя цяжары для разьвіцьця сілы.

Гэта дзіўная прывычка была прычынай гібелі некалькіх сабак з фэрмы Чымней-Пот. Джэк вылажыў шмат атручаных кавалкаў мяса на заходніх узгорках. Ціто ведала, што гэта такое, і, як звычайна, не чапала яго. Але аднойчы яна падняла два ці тры кавалкі і накіравалася праз Малую Місуры к фэрме. Яна абышла фэрму на досыць далёкай адлегласьці і, калі пачула браханьне сабак, з перапалоху кінула кавалкі мяса. На наступны дзень сабак выпусьцілі пагуляць. Яны наскочылі на атручанае мяса і зьелі яго. Праз некалькі хвілін на зямлі ляжала шмат мёртвых ганчакоў. Пасьля гэтага быў выданы загад, які забараняў зьнішчаць ваўкоў атрутаю. І загад гэты быў выданы дзякуючы маленькаму кароткахвостаму кайёту.

Ціто хутка зразумела, што паляваньне—нават на адну і тую-ж пароду жывёл—патрабуе кожны раз асаблівых прыёмаў. Сусьлік, які жыў далёка ад сваіх, прышоўся ёй гэтак лёгка, але затое іншыя сусьлікі жылі зусім блізка адзін ад другога. Пасярод іх пасёлку жыў прывабны тоўсты сусьлік, настаяшчы стараста, і Ціто некалькі раз прабавала злавіць яго. Аднойчы яна ўжо нават падкралася к яму, але раптам шыпеньне грымучай зьмяі перашкодзіла ёй. Зьмяя ня тое што, каб мела сама намер схапіць сусьліка, але проста ня любіла, каб яе трывожылі, і Ціто, якая баялася зьмяі, павінна была кінуць сваё паляваньне.

У кайётаў ёсьць прывычка наглядаць з якога-небудзь высокага месца за ўсімі, хто праяжджае па дарогах, а пасьля спускацца і абнюхваць сьляды. Тое-ж самае рабіла і Ціто.

Аднойчы, ад гораду ў напрамку на поўдзень праехала па дарозе фура. Ціто прыпала к зямлі і пачала наглядаць за ёй. Вось штосьці ўпала на дарогу. Калі фура зьнікла з вачэй, Ціто скокнула на дарогу, каб па прывычцы панюхаць сьлед і паглядзець, што ўпала. Ціто ўбачыла якісьці няпрывабны зялены прадмет, падобны на ліст кактуса, толькі без калючак і з другім пахам. Гэта быў яблык. Яна панюхала яго, штурханула і хацела ўжо прайсьці міма. Але сонца гэтак весела пералівалася на яблыку і ён так цікава каціўся, калі яна штурхала яго, што Ціто падняла яго і пацягнулася назад праз узгорак туды, дзе жылі сусьлікі. Якраз у гэты час два стэпавых каршуны кружыліся над пасёлкам сусьлікаў, і зьвяркі, убачыўшы птушак, пачалі пішчаць, махаючы хвастамі, а пасьля схаваліся ў свае норкі. Калі ўсе сусьлікі схаваліся, Ціто накіравалася к памяш-



Гэта быў яблык.

каньню „старасты“, на якога яна даўно вастрыла зубы. Пакінуўшы яблык недалёка ад ямы, якая служыла нарой для „старасты“, яна ўваткнула нос у дзірку, каб надыхацца прыемным пахам сытага суськіа. Яго нара пахла прыямней, чым усе іншыя. Нанюхаўшыся ўволю, Ціто спакойна лягла за бліжэйшым кустам. Праз некалькі сэкунд якісьці сьмелы суськік выглянуў з свае норкі і, нічога не заўважыўшы, спакойна забрахаў. Адзін за другім, усе суськікі вылезьлі на паверхню, і праз якія-небудзь дваццаць хвілін пасёлак ажывіўся паранейшаму. Самым апошнім вылез „стараста“, які заўсёды нязвычайна турбаваўся аб сваёй дарагой асобе. Ён асьцярожна аглядзеўся і пасьля ўзьлез наверх насыпі сваёй нары.

Нара суськіа пабудована накшталт лейкі, якая ідзе проста ў зямлю. Верх нары абкружаны высокаю насыпкаю з пяску. Краі насыпі, з надворнага боку, паступова раўнуюцца з зямлёю.

Калі „стараста“ ўбачыў дзіўную круглую рэч, што ляжала каля яго парогу, ён спалохаўся. Падрабязны агляд гэтай рэчы пераканаў яго, што яна ніякай небясьпекі не нясе яму і, відаць, вельмі цікавая рэч. Ён асьцярожна наблізіўся да яблыка, панюхаў і паспрабаваў укусіць яго, яле яблыка пакацілася па гладкай і пакатай зямлі. Суськік пабег за ім, а яблык каціўся ўсё далей і далей. Ніякая небясьпека, здавалася, не пагражала „старасту“: усе яго таварышы былі на паверхні зямлі,—і ён спакойна сабе даганяў уцякаючы яблык.

Яблык каціўся да куста, што рос недалёка ад насыпі. А за кустам прытулілася Ціто. Яна сагнулася, напружыла мускульныя ногі і чакала, пакуль адлегласьць паміж ёю і суськікам не скароціцца нагэтулькі, каб можна было ёй упэўнена скокнуць на ахвяру. Тады яна, як куля, кінулася наперад і ахвяра была, нарэшце, у яе лапах.

Мы ніколі не даведаемся, была гэта простая выпадковасьць у тым, што яблык аказаўся перад нарой суськіа, ці гэта было зроблена зусім абмеркаваным разумным шляхам. Як-бы там ні было, яблык на гэты раз вельмі прыгадзіўся Ціто. Калі такі выпадак здарыўся яшчэ раз ці два з Ціто ці якім-небудзь іншым разумным кайётам, — а звычайна такія выпадкі здараюцца з разумнымі,—у кайётаў лёгка мог-бы зьявіцца новы спосаб паляваньня.

## Разьдзел VIII.

Вясна запанавала ў прыгожых Бэдландах.

Здавалася, прырода сказала сабе: „трэба ўтварыць месца, у якім злучылася-б усё, што ёсьць на зямлі цудоўнага— рай для людзей, жывёлаў і птушак“ — і ўтварыла гэтыя прыгожыя і дзікія узгоркі, поўныя жыцьця, пакрытыя таемнымі дубровамі, шырокімі стэпамі і блісучымі ад сонца вазёрамі і крыніцамі. Тут, у гэтай краіне ўзгоркаў, у гэтай краіне вечна яркага неба і вечна яркай зямлі, прырода, здаецца, багата рассыпала падарункі, якія яна ў другіх месцах разьмяркоўвае скупа, як золата.

Маленькі ўзгорак на захад ад фэрмы Чымней-Пот зазелянеў сьвежай травой. Вясна ўвабрала зямлю ў яркія кветкі, і нават кактус, самая бедная з расьлінаў, зьдзівіў сьвет прыгожаю кветкаю, якая нагэтулькі-ж мала падобна на яго, як пэрла на сваю матку—ракавіну. Шалфей мігацеў на сонцы залатымі плямамі, анямоны ўкрывалі ўзгоркі Бэдландаў сінява-тым сьнегам. І ў паветры, і ў лагчынах, і на ўзгорках—усюды красавалася вясна. Надыходзіў канец зімовай галадоўцы, пачыналася летняе прывольле. У гэты самы час прырода дазволіла, нарэшце, маленькім кайётам убачыць сьвет.

Матцы не патрэбна вучыцца любіць сваіх маленькіх дзетак. Яны самі прыносяць каханьне разам з сабою, калі зьяўляюцца на гэты сьвет. У сваім цемнаватым цёплым бярлозе Ціто нянчыла, лізала і песьціла сваіх дзяцей.

Але каханьне да дзяцей нагэтулькі-ж вялікае, як і небясьпека за іх жыцьцё. Раней Ціто павінна была клапаціцца толькі аб сабе. Усё, чаму яна навучылася ў час свайго маленства, усё, што яна пазнала пасьля, служыла ёй толькі для таго, каб захаваць сябе ад сьмерці. Цяпер яна забылася аб сабе радзі сваіх дзяцей. Галоўнай яе турботай было захаваць свой бярлог ад вока людзей.

Ціто выходзіла і прыходзіла з вялікай асьцярожнасьцю і толькі пасьля таго, як уважліва аглядала мясцовасьць.

Людзі ведалі Ціто толькі як істоту з страшнаю ляпаю, з нагамі, што ня ведаюць зморанасьці, істоту, якая ўсюды пакідае за сабою сьляды разбурэньня. А дзеці-зьвераняткі ведалі яе як любімую, добрую матку і абаронцу. Яна карміла і адагравала іх, сьцерагла іх уважліва і разумна. Яна заўсёды была гатовай на самую адчайную барацьбу для таго, каб абараніць іх у хвіліну небясьпекі.

Народжаны кайёт уяўляў з сябе нехлямяжую, дурную і—для кожнага, апрача сваёй маткі—даволі няцікавую істоту. Але, калі вочы яго прарэжуцца, ногі абмацнеюць, калі ён навучыцца забаўляцца на сонцы з сваімі братамі і бегчы галёпам на прыветны гук маткі, якая нясе яду, тады маленькі кайёт становіцца самай спрытнай, самай цікавай істотаю ў сьвеце.

Прышло лета. Маленькія кайёты елі ўжо мяса, і Ціто, з дапамогаю Асядланага, заўсёды была занятая тым, што здабывала яду для сябе і для дзяцей. Іншы раз яна прыносіла дамоў сусьліка, іншы раз прыходзіла з поўным ротам мышэй, а раз ці два ёй удалося злавіць нават вялікага труса.

Пад'еўшы, уся сям'я разьмяшчалася на сонцы. Ціто ўзыходзіла на які-небудзь узгорак і аглядала адтуль зямлю і паветра сваімі гострымі вачыма, клапоцячыся аб тым, каб ніхто не знайшоў іх шчасьлівага памяшканьня, а вясёлыя ваўчаняты забаўляліся між сабою, ці ганяліся за матылькамі, ці, урэшце, церабілі косткі і пер'я, што валяліся ля парогу іх нары. Толькі адзін, самы кволенькі—як гэта здараецца ў кожнай сям'і—быў амаль заўсёды каля маткі, узлазіў ёй на сьпіну, ці тармасіў яе за хвост. Усе яны разам выяўлялі досыць прыемны малюнак для гледача.

Ціто была гордай і шчасьлівай.

## Разьдзел IX.

Паляўнічы Джэк, як чалавек руплівы, маляваў і спрабаваў шмат плянаў, як-бы набыць сабе багацьце, але ўсе яны раскідаліся адзін за другім, калі толькі Джэк пераконваўся, што яны патрабуюць работы.

Аднаго разу яму прышла ў галаву думка, што ня дрэнным сродкам для набыцьця багацьця можа служыць птушыны двор. Доўга ня думаючы, ён купіў тузіну індзюшак і зьмясьціў іх у адным з куткоў сваёй мізэрнай халупы. Два дні клапатліва даглядаў ён сваіх індзюшак, а на трэці яны яму ўжо надаелі. І кожны раз, калі Джэк прыходзіў з вандроўкі ў сваю халупку, ён заўважваў, што лік індзюшак усё зьмяншаўся. Нарэшце, жывым астаўся толькі адзін стары індзюк. Джэк не асабліва сумаваў ад страты, але ён быў сярдзіты на злодзея.

У гэты час яго галоўным заняткам было зьнішчэньне ваўкоў. Фэрмеры далі яму атруты, капканаў і коняй: спадзейны чалавек мог-бы атрымаць яшчэ і грошай у прыдатак, таму што фэрмэры народ ня скупы, але Джэк ня быў спадзейным чалавекам.

Распачаць супроць ваўкоў сур'ёзную вайну было лепш усяго летам, калі ўсе бярлогі былі напоўнены маленькімі кайётамі і ваўкамі. Было некалькі спосабаў, як сачыць за воўкам. Адзін з іх—сачыць за ім, прытуліўшыся на якім-небудзь узгорку, калі воўк нясе яду сваім маленькім. Гультаяватаму Джэку больш усяго падабаўся гэты спосаб, бо ён якраз даваў яму магчымасьць доўга і спакойна ляжаць на зямлі. Палажыўжы поруч з сабою падзорную трубу і пусьціўшы пасьвіцца каня, Джэк цэлыя тыдні праводзіў на якім-небудзь узгорку; ён моцна хроп і толькі сяды-тады аглядаў ваколіцу сваімі запаснымі вачыма.

Кайёты навучыліся таму, як ухіляцца нелясістых і пустых мясцовасьцяй і звычайна, ідучы дамоў, туляліся паміж узгоркаў; але гэта не заўсёды, зразумела, удавалася ім; аднойчы Джэк выпадкова заўважыў цёмную пляму, якая варушылася на пустым схіле ўзгорку. Джэк пазнаў кайёта. Відаць было, што ён нясе нешта ў сваім роце. А гэта значыла, што блізку знаходзіцца бярлог з малымі кайётамі. Джэк заўважыў месца, і ў наступны дзень вярнуўся, каб зноў сачыць, але мінуў цэлы дзень, а ён нічога ня ўбачыў на тым высокім узгорку, па якім кайёт нёс сваю здабычу. Але ўжо на трэці дзень Джэк заўважыў цёмнага кайёта—гэта быў Асядланы, які нёс у зубах вялікую птушку. Праз сваю падзорную трубу Джэк убачыў індзюка; ён цяпер зразумеў, куды падзеліся яго індзюшкі і пакляўся бязьлітасна пакараць ворага, калі знойдзе яго бярлог. Ён сачыў за Асядланым колькі было магчымасьці, а пасьля накіраваўся ў тое месца, дзе зьнік з вачэй кайёт. Але тут ён не знайшоў ніякіх сьлядоў і на гэты раз не адшукаў маленькага ўзгорку, ля якога забаўляліся дзеці Ціто.

Між тым, Асядланы наблізіўся да гэтага ўзгорку і, як звычайна, ціха загукаў пасвойму, ад чаго заўсёды на паверхню зямлі выскаквалі 9 галодных кайётаў. Яны накінуліся на індзюка, пакуль усяго не парвалі на кавалкі, а атрымаўшы кожны сваю долю, разышліся ў розныя бакі і маўкліва ўзяліся за яду. Толькі зрэдку, калі набліжаўся адзін да другога, першы з іх ціха бурчаў і злосна варочаў бялкамі вачэй, стараючыся наглядаць за ўсімі рухамі сваіх суседзяй. Справа не абышліся бяз бойкі, але руплівая матка зараз-жа спыняла іх, падзяліўшы індзюка на роўныя часткі. Тады „байцы" разыходзіліся хто куды, а самы маленькі скокнуў у дзірку бярлогу, з радасьцю нясучы сваю здабычу—вялікую галаву індзюка.

*(Працяг будзе).*



*Джэк выпадкова заўважыў цёмную пляму на схіле ўзгорку.*

# Заместа 5-ці мы павінны вучыцца 8 месяцаў.

Надыходзіць вясна. Як правіла, пераважная большасьць вясковых вучняў пакідае школу, не чакаючы канца навучальнага году. Асабліва рана пакідаюць школу дзеці батракоў і беднаты.

Прычын раньняга выхаду са школы досыць шмат. Адны рана пакідаюць школу затым, што ім трэба наймацца ў пастушкі—гэта дзеці батракоў і беднаты; другія, што ім трэба пасьвіць сваю хатнюю жывёлу; трэція, што ім трэба даглядаць за меншымі братамі і сёстрамі; чацьвёртыя—бяз жаднай прычыны і г. д.

Цяжка некаторым вучням вясковых школ, і ў асаблівасьці вучням вясковай беднаты і батракоў, дабыць да канца навучальнага году; ня лепш абстаіць з імі справа і ў пачатку навучальнага году. Звычайна школа распачынае сваю працу з 15-га верасьня, а самае позьняе з 1-га кастрычніка.—Здавалася-б, што к гэтаму часу ўсе вучні ўжо будуць на месцы. Між тым частка вучняў, і ў асаблівасьці дзеці батракоў і беднаты, як правіла, прыходзяць на месяц—на паўтара пазьней. Прычыны ўсё тыя-ж, што і пры раньнім выхадзе са школы. І вось выходзіць, што частка вучняў, і прытым досыць значная, заміж таго, каб вучыцца ў школе штогод на працягу 8 месяцаў, вучыцца на працягу толькі 5-6 месяцаў.—А ці можна-ж прайсьці адну й тую-ж праграму за 5-6 месяцаў, што й за 8 месяцаў?

Вядомая рэч, што нельга. Аб гэтым вельмі ясна гаворыць нам вагромная маса другагоднікаў. На кожных 100 вучняў нашае вясковае школы мы маем штогод 17 вучняў другагоднікаў. З трохсот саракатысячнай (340.174) арміі вучняў вясковых школ БССР на 1927-28 навучальны год мы маем каля 57.817 другагоднікаў. І гэта галоўным чынам дзеці беднаты і батракоў, якія позна прыходзяць і рана выходзяць са школы.

А цяпер паглядзім з другога боку на гэтае пытаньне. Паспрабуем падлічыць, колькі каштуе нашай дзяржаве другагодніцтва. Адзін вучань вясковае школы каштуе дзяржаве ў год 17 руб., а 57.817 другагоднікаў будзе каштаваць 982.889 р. (амаль што мільён). Вось якая вагромная сума грошай траціцца нашай дзяржавай штогод амаль што дарэмна. Ці можна-ж дапускаць такую амаль дарэмную трату сродкаў? Ні ў якім разе нельга, хоць і ёсьць на гэта прычыны.

Што трэба рабіць настаўнікам, вучнёўскаму самакіраваньню і ў першую чаргу піонэрскім організацыям цяпер, увесну, каб зьменшыць армію другагоднікаў?

1. Павесьці шырокую кампанію як сярод самых вучняў, так і ў асаблівасьці сярод бацькоў вучняў і ў першаю чаргу сярод беднаты і батракоў аб тым, каб дзеці заставаліся ў школе да канца навучальнага году.

2. Організаваць самім вучням невялічкую дапамогу найбольш бяднейшым вучням.

3. Прыцягнуць коопэрацыю і камітэты ўзаемадапамогі да аказаньня матэрыяльнай дапамогі найбольш бяднейшым вучням.

4. Дабіцца перад сялянствам вёскі, каб яно наняло аднаго пастуха для пашы кароў, заміж пашы кароў кожнай хатай паасобку.

5. Наладзіць (там, дзе ня будзе агульнага пастуха) пэўную чаргу для пашы кароў (сёньня адны, заўтра другія, пасьля заўтра трэція і г. д.) з тым, каб хоць і ня кожны дзень, але ўсё-ж такі хадзіць у школу.

6. Наладзіць таварыскую дапамогу тым вучням, якія па той ці іншай прычыне не пасьпяваюць у вучобе.

**І. Мазур.**

# НАША ЖЫЦЬЦЕ.

## Зрабілі сабе радыёпрыёмнік.

У нашай Менскай школе Зах. чыг. месяцы 4 як існуе гурток радыё.

Зацікаўленасьць вучняў да радыё спачатку організацыі гуртка выявілася вельмі вялікая: з 1500 вучняў нашае школы амаль каля 200 чалавек запісалася ў гурток. Але ў гурток прынялі шмат менш, чым было запісана. Мэта гуртка: збудаваць у школе гучнагаварыцель.

Цяжка спачатку было, але потым пайшло, як па масьле. Сталі будаваць асобныя часткі, потым злажылі іх. Цяпер кончылі матаць катушкі, і ўжо амаль што прыёмнік гатоў. Пачалі ставіць антэну; гэта былі часы самае цяжкае працы. Трэба было на 4-хпавярховым доме паставіць жэрдкі-мачты.

Гэта праца скончана, увод ад антэны зроблены. Радуюцца цяпер вучні, радуюцца і сябры гуртка, гледзячы на сваю працу.

**Сяліцкі.**

---

## Самі организуюць!

*(Атрады пры мясцкоме Белдзяржкіно і саюзе Рабіс).*

Яшчэ ў мінулым годзе пры нашых атрадах організаваўся шумавы аркестр. Ініцыятарамі гэтай справы былі самі піонэры. Важна заўважыць, што значная частка з нашых піонэраў займаюцца ў музычных школах, а таму гэту справу організаваць у нас было лягчэй, чым у іншых атрадах.

Падабралася чалавек 20 піонэраў, якія пачалі з дому сьцягваць у клюб „інструмэнты“, а менавіта: чайнікі, шклянкі, бляхі розныя, фанэру і палкі. Свой кіраўнік знайшоўся ў групе.

Праз некаторы час мы ўжо мелі выступленьне шумавога оркестру. Цікава, што аркестр кіраваў сам сабой і досыць талкова прайшло наша выступленьне.

*Пра нашы вечары і самадзейнасьць піонэраў.* Раней, чым у нас організуецца вечар, піонэры, якія цікавяцца вечарамі, бяруцца за падрыхтоўку яго. Піонэры, якія займаюцца ў музшколе, рыхтуюць музыкальныя нумары і скокі. Прытым кожны, хто думае выступаць, індывідуальна або сабраўшыся цэлай групай рыхтуюцца да вечару.

Акрамя гэтага, важнае месца на вечарох займае спортвыступленьне. Для гэтае мэты прыцягваецца кіраўнік саюзу.

Зьмест вечароў цікавіць піонэраў. Вечар складаецца, прыблізна, з такіх частак: невялікая ўрачыстая частка, затым ідзе выступленьне з музычнымі нумарамі, дуэт, трыо; выконваюцца нумары на вэліёнчэлі і другіх музычных прыладах. Музыка і сьпевы цікавяць прысутных. Аб вечарох добра адгукваюцца ня толькі камсамольцы, якія прысутнічаюць там, але й бацькі піонэраў. Добрае ўражаньне робіць выступленьне з балетнымі нумарамі.

**А. В-ы.**

---

## У нашым клюбе.

У нашай школе організаваўся клюб, які дае шмат карысьці вучням. Пры клюбе маюцца розныя газэты і журналы, розныя гульні, як, напр., шашкі, шахматы і шмат іншых.

У клюбе кожны тыдзень адбываюцца галосныя чыткі і шахматна-шашачныя турніры. Пры клюбе адчыніўся пакой дзеля падрыхтоўкі лекцый. Там знаходзяцца патрэбныя вучэбнікі, кожны дзень тут знаходзіцца настаўнік, які дапамагае вучням падрыхтоўваць лекцыі.

Клюб наведваюць шмат вучняў, якія вельмі здаволены яго працай.

Дзяткоры: **Гурэвіч і Хайцін.**

**(Барысаўская школа № 6).**

# ЗАМЕСТА КІРХІ—ПІОНЭРСКІ КЛЮБ.

*(Менскі Цэнтральны піонэр. клюб).*

Быў час (да рэвалюцыі), калі ў гэтым каменным будынку, што зьмяшчаецца за жалезнай агародай, па Савецкай вуліцы, знаходзілася гэтак званая „кірха“ (нямецкая царква), дзе тлусты лютаранскі „пастар“ з набожна ўзьнятымі дагары вачыма казаў казаньні з амбону групе сваіх менскіх адзінаверцаў.

Кастрычнікавая рэвалюцыя парушыла спакой пастыра. Апошні ў 1918 годзе кудысьці зьнік разам з нямецкімі акупантамі, праклінаючы „барбараў-бальшавікоў“, якія бога забыліся і асьмельваюцца турбаваць яго месцапрабываньне.



*Самі пераплятаем кнігі ў сваёй майстэрні.*

Цяпер замест кірхі мы маем цэнтральны піонэрскі клюб.

Доўгі час ніякая праца з піонэрамі тут амаль што не вялася. Памяшканьне пэрыядычна займалася рознымі організацыямі.

Нарэшце ў студзені 1928 году, Менакрбюро ЮП паставіла сабе задачай зрабіць будынак асяродкам піонэрскай клюбнай працы і пачало праводзіць адпаведную працу. Толькі з гэтага часу кірха і ператвараецца ў сапраўдны клюб для піонэраў.

* * *

Першае, што больш усяго кінецца ў вочы пры ўваходзе ў клюб, гэта вялічэзная чарга піонэраў за кніжкамі ў бібліотэцы. Бібліотэка клюбу налічвае звыш 1000 кніжак, сярод якіх маецца літаратура па самых рознастайных галінах ведаў. Найбольшым посьпехам карыстаюцца тут, зразумела, белетрыстыка і асабліва кнігі прыгодніцкага характару.

Ледзь-ледзь праціснуліся праз „хвост“, які стаіць за кніжкамі, і ўваходзім у вялікую залю, якая ў гэты момант перапоўнена піонэрамі.

Кожны з піонэраў заняты якой-небудзь справай.

Чытаюць розныя газэты і часопісі, „рэжуцца“ ў шашкі, шахматы ды інш. гульні. То там, то сям чуваць:

— Міхась, хадзі пешкай у кут, бо будзе позна!

— А ты што за памочнік такі знайшоўся? Сядзі сабе лепш моўчкі, ня сунь носа не ў сваё проса...

— Ты, брат, не абурайся, а лепш хадзі: вось так... вось... зараз і дамка будзе ў цябе,—з нецярплівасьці паказвае яму рукой ранейшы памочнік.

Ідзем далей. Сьпіс гульняў, у якія гуляюць прысутныя, досыць вялікі; акрамя шашак і шахмат тут яшчэ маецца „даміно“, „лато“ і г. д.

Трэба сказаць, што пэўны парадак у клюбе маецца, хоць сярод прысутных і ёсьць нязначны лік „бузацёраў“, але сярод занятых працай ім няма дзе разгарнуцца.

Як-бы там ні было, аднак грунтоўная маса прысутных піонэраў даволі добра сябе трымае, добра адносіцца да газэт, часопісаў і гульняў, і, як відаць, прышла сюды з сур'ёзнай мэтай: карысна і цікава правесьці свой вольны час.

Узыходзім на другі паверх, дзе працуюць майстэрні: сталярная і пераплётная.

У кожнай з гэтых майстэрняў налічваецца па 30 чал. хлопцаў і дзяўчат, якія за кароткі час сваёй працы (паўтара м-цы) аднак здолелі дабіцца значных вынікаў.

Даволі сказаць, што пераплётны гурток ужо самастойна пераплятае кнігі для клюбнай бібліотэкі.

У сталярным гуртку справа стаіць крыху складаней: хлопцы заняты пераважна струганьнем брускоў—заняткі на першы погляд здаецца лёгкія, але на самай справе выходзіць наадварот.

Шмат клопату прыходзіцца траціць інструктару майстэрні т. Глезару, каб навучыць сталярнай мудрасьці хлопцаў.

Аднак і сярод іх маюцца свае „спэцы", здольныя адзінкі, возьмем напрыклад, піонэра *Доўнара*.

— Калі я першы раз прышоў сюды, дык нават і ня ведаў, якім чынам у руках малаток трымаць. Аднак, за пэўны час перамог усю гэтую „прамудрасьць" нагэтулькі, што зараз самастойна раблю зэдлікі і фортачкі да вакна і інш. падобныя рэчы,—кажа ён.

Настрой хлопцаў і іх адносіны да працы—добрыя. Сярод іх амаль няма выпадкаў, каб ня прыходзілі на працу.

Інструктар майстэрні тав. Глезар працуе тут ужо другі год. Яго лепшыя вучні, якія атрымалі пад яго кіраўніцтвам у леташнім годзе першапачатковыя веды па сталярскай справе, зараз вучацца ў профтэхшколе будаўнікоў.

* * *

— Ну, як, хлопцы: здавальняе вас гэты клюб?—пытаемся ў групы піонэраў.

— Ды яшчэ як! Раней мы кожны вечар „грушы акалачвалі", бадзяліся па вуліцах бяз усякай справы. Вось Грышка,—дык той нават „зайцам" на каток пралазіў і ня раз адтуль „далікатна" выдвараўся вартаўніком, як бязьбілетны. А зараз дык і думаць аб гэтым ня хоча.

Той, аб кім гаворыцца, схіліўся над сьвежым нумарам часопісі „Бел. Піонэр" і ўважліва чытае яго, як быццам гэта і не аб ім ідзе гутарка.

— А скажэце, хлопцы, што па вашай думцы яшчэ патрэбна ўвесьці ў працу клюбу, каб у большай меры задаволіць вашы запатрабаваньні?

— Павялічыць колькасьць кніжак у бібліотэцы!

— Наладжваць у клюбе розныя рухавыя гульні, як: „трэці лішні", „вудачка", „эстафэта" і г. д.

— Ня шкодзіла-б тут у клюбе чароўны ліхтар устанавіць, больш прыцягнуць у клюб неорганізаваных дзяцей.

— Організаваць у клюбе новыя гурткі, як: мастацкі, вайсковы, спартыўны ды інш.

Старшыня акрбюро т. Ільлін растлумачвае нам, што некаторыя з выказаных дзецьмі прапаноў ужо праводзяцца ў жыцьцё.

Дзеля таго, каб праца ў клюбе была цалкам пабудавана на дзіцячай самадзейнасьці, будзе праведзена запіс піонэраў у члены клюбу. Апошнія-ж абяруць з сваіх шэрагаў праўленьне клюбу, якое будзе кіраваць усёй працай.

Я. Зялёны.



# ПІОНЭРЫ У ЛЯГЕРЫ!

Вопыт правядзеньня лягэраў у мінулым годзе вучыць нас перш за ўсё вось чаму: посьпех лягэрнай кампаніі залежыць выключна ад сваечасовай і ўмелай падрыхтоўкі да яе.

Улічыўшы гэта, піонэрарганізацыя Менгарраёну пачала ўжо рыхтавацца да лягэраў як у агульна-раённым абхваце, гэтак і ў асобных атрадах. Што канкрэтна робіцца ў гэтым напрамку?

**Вечары, капілкі, кіно-сэансы і г. д.**

Райбюро і атрады перш за ўсё заняліся вышукваньнем сродкаў, без якіх, як вядома, у лягэр выйсьці нельга. Трэба сказаць, што піонэры здолелі ў гэтай галіне выявіць шмат іныцыятывы і вынаходзтва, што дазваляе мець упэўненасьць у посьпех справы.

Вось некалькі прыкладаў:

Атрад пры акруговым аддзеле камунальнай гаспадаркі наладзіў яшчэ ў канцы мінулага году лягэрную капілку. Апошняя ўяўляе сабой зачыненую з усіх бакоў бляшаную конаўку, куды ўвесь атрад і кожны піонэр паасобку рэгулярна кідаюць грошы, якія удалося якімбы там ні было чынам здабыць ці з'эканоміць.

Але гэта яшчэ ня ўсё. Дзякуючы стараньням піонэраў праўленьне клюбу дало дазвол на тое, каб наладзіць некалькі платных кіно-сэансаў, увесь збор ад якіх пойдзе на ўзмацненьне лягэрнага фонду.

Нарэшце „камгасаўцы“ ўзяліся і за бацькоў. Тут пушчаны ў ход усе сродкі, пачынаючы ад індывідуальнай агітацыі за адлічэньне некаторай сумы ад бацькаўскай пэнсіі ў лягэрны фонд і канчаючы сходам-бацькоў. Ёсьць падставы меркаваць, што кожны з апошніх адлічыць у лягэрны фонд ня менш трох рублёў.

Прыблізна такі-ж малюнак мы бачым і ў астатніх атрадах. Піонэры атраду пры Наркампрацы дадумаліся яшчэ да таго, што пусьцілі падпісны ліст сярод працаўнікоў сваёй установы, які павінен даць не малую суму сродкаў.

Цікавае мерапрыемства праводзіць атрад пры электрастанцыі. Піонэры сабралі розныя лішнія рэчы з хатняга ўжытку і наладзілі з іх грашовую лётарэю, якая і будзе разыгрывацца сярод рабочых і служачых.

Апроч таго, зроблена наступная ўмова з праўленьнем клюбу пры эльводзе: кожны, хто наведвае клюб, павінен абавязкова здымаць верхнюю вопратку і здаваць яе на вешалку за невялічкую плату. Апошняя таксама пойдзе на ўзмацненьне лягэрнага фонду.

Не адстаюць піонэры і пры саюзе нархарчаваньня, якія ладзяць на карысьць лягэрнага фонду некалькі платных кіносэансаў. Апроч таго, імі дасягнута згода на тое, каб піонэры ўзялі на сваё ўтрыманьне буфэт пры клюбе, увесь прыбытак ад якога пойдзе ў сродкі на лягэр.

**Што робяць саюзы і райком?**

Калі летась мы назіралі з боку саюзаў шмат выпадкаў адмаўленьня ад дапамогі піонэрам у справе падрыхтоўкі да лягэра, дык сёлета такое становішча зьмянілася.

Цікавым у гэтых адносінах зьяўляецца наступны факт: на ўсебеларускім зьезьдзе саюзу камунальнікаў, які адбыўся нядаўна, выступала ў спрэчках некалькі прамоўцаў, якія спыняліся на неабходнасьці ўзмацненьня грашовай дапамогі піонэрам. Вынікам гэтага зьявіўся наступны пункт, які ўнесен ў рэзалюцыю зьезду па дакладу ЦП саюзу:

— Прызнаць неабходным тое, каб піонэры ўлетку бягучага году маглі выехаць у лягэр. Для гэтага даручыць ЦП саюзу асыгнаваць на гэта мерапрыемства адпаведную суму сродкаў.

Гарадзкі райком ЛКСМБ таксама робіць усё магчымае, каб выехаць у лягэр сёлета як мага большаму ліку піонэраў. Дадзены паказаньні ўсім камсамольскім ячэйкам аб неабходнасьці садзейніцтва атрадам у справе вышукваньня сродкаў і г. д.

Пры райкоме будуць організаваны каротка-тэрміновыя сэмінарыі для піонэраў, якія выйдуць у лягэр, дзе будуць праводзіцца гутаркі аб тым, як сябе весьці ў лягэры, як лепш адпачываць і інш.

У бліжэйшы час адбудзецца масавы мэдыцынскі агляд усёй раённай піонэрорганізацыі з мэтай выяўленьня тых піонэраў, якіх абавязкова трэба паслаць ў лягэр.

**Павадыр.**

Менск, гарадзкі раён.

## „Беларускі Піонэр“ дапамог.

Як толькі ў нашай вёсцы організаваўся атрад піонэраў, дык праз некаторы час мы выпісалі сваю часопісь „Беларускі Піонэр“.

Адразу палюбілі часопісь і сталі распаўсюджваць між неорганізаваных дзяцей. Мы растлумачылі ім, што гэта часопісь дае шмат карысьці для ўсіх дзяцей.

Атрад піонэраў чытаў аб дзецях захаду, як яны там жывуць і працуюць.

Праз гэта атрад юных піонэраў прывабіў да сябе неорганізаваных дзяцей, якія залічыліся ў атрад.

**Кручкоў.**

в. Урвяніца.

---

## Зацікавілі піонэраў часопісьсю.

Аднойчы на зборы атраду павадырка прынесла часопісь „Беларускі Піонэр“. Калі ўсе сабраліся, яна сказала:

— Павестка дню ў нас наступная:

разгляд часопісі. „Беларускі Піонэр“ і бягучыя справы.

Збор пачаўся. Яна прачытала нам некалькі самых цікавых апавяданьняў з часопісі, якія дужа зацікавілі нашых піонэраў. Таксама задавала нам загадкі, шарады, якія мы павінны былі адгадваць. Хто больш адгадваў, той атрымліваў прыз.

Збор прайшоў дужа весела. На занятках другога зьвяна ўхвалілі, каб кожны піонэр выпісваў сваю часопісь. Гэту пастанову мы ў хуткім часе выканалі.

Цяпер кожны піонэр дужа рад, што мае сваю часопісь.

**І. Капілёвіч.**

---

## ШТО ТРЭБА РАБІЦЬ, КАБ ЗДАРОВЫМ БЫЦЬ.

*(Што такое парша і як ад яе вылечыцца).*

Парша зьяўляецца ад таго, што ў скуру пападае расьлінны грыбок і хутка там плодзіцца. Гэты паразіт-грыбок складаецца з асобных нітачак, якія сплятаюцца паміж сабой розным чынам.

Парша перадаецца ці непасрэдна ад хворага здароваму, ці праз адзежу, бялізну, шапку, асабліва праз грэбень. Калі здаровае дзіця зачэсваецца такім грэбянем, якім чэшацца хворы паршой, дык яно абавязкова захварэе. Прывычка мяняцца шапкамі, якая назіраецца ў многіх вучняў,—гэтак сама вельмі шкодная, таму што і праз шапку можа перадацца парша.

Паршы можна набрацца і ад хатніх жывёлаў (сабак, коняй), хатнік птушак і мышэй.

На паршу хварэюць большай часткай дзеці ад 5-ці да 15-ці год. Гэта хвароба амаль выключна бывае на галаве, вельмі рэдка яна бывае на іншых мясцох скуры і на кіпцях.

З самага пачатку скура пачынае лушчыцца; і дзіця і яго бацькі думаюць, што гэта сыплецца звычайная перхаць. Праз некаторы час на галаве дзе-нідзе зьяўляюцца чырвоныя лапінкі, а пасьля чырванее амаль уся скура (на галаве).

Паступова пачынаюць зьяўляцца маленькія струпкі жоўтага колеру. Струпкі сядзяць у пачатку валасоў. На працягу некалькіх тыдняў струпок павялічваецца і вырастае з срэбраную грыўню. Чым далей цягнецца хвароба, тым большыя і большыя вырастаюць струпы, лік іх павялічваецца і, нарэшце, уся галава пакрываецца струпамі, як жоўтай карой.

Галава пахне, як плесеньню, ці мышамі.

Пасьля гэтага валасы ўжо ня блішчаць, як здаровыя, яны становяцца смуглымі, сухімі і ломяцца.

Парша можа цягнуцца некалькі год, нават—дзесяткі год.

За такі доўгі час парша прападае сама, без лячэньня, але пакідае пасьля сябе на галаве плямы, на якіх валасы ніколі ня вырастуць.

Але калі ад паршы ў час пачаць лячыцца, можна хутка яе вылечыць і на галаве ніякіх плям не астанецца. Вылечыцца можна за 2—3 месяцы.

Да гэтага часу самым лепшым сродкам лячэньня ад паршы лічыліся рэнтгэнаўскія прамені. У апошні час сталі ўжываць яшчэ лепшы сродак—пад назвай „Таль“ („талий“).

Гэтым лякарствам удаецца вылечыць хутчэй, чым рэнтгэнам.

Ня гледзячы на параўнаўча лёгкае лячэньне, усё-ж куды лягчэй усьцерагчыся ад гэтае хваробы, чым потым лячыцца.

Дзеля таго, каб не захварэць паршой, трэба толькі падтрымліваць поўную чыстату галавы.

Таму трэба заўсёды коратка стрыгчы валасы, чыста мыць галаву цёплай вадой з мылам. Грэбень павінен быць заўсёды чыстым; ня трэба мяняцца шапкамі, ня гуляць з хворымі хатнімі жывёламі.

Акрамя асабовых перасьцярог, з паршой змагаецца і дзяржава. Дзеля гэтага ў нашай рэспубліцы маюцца „фавозныя дамы“, дзе на працягу некалькіх месяцаў зусім вылечваюцца ад хваробы.

**М. Сандамірскі.**

# „ГОСЬЦІ З НЕБА“.

*(Аб мэтэорытах).*

Выйдзіце з хаты ўвечары, а яшчэ лепш позна ўначы і паглядзеце на неба. На ім у ясную ноч вы ўбачыце вельмі многа зор. Аглядаючы неба навакол, вы, напэўна, заўважыце, як па ім то тут, то там праляціць зорка і зьнікне. Шмат хто з людзей думае, што гэта падаюць тыя зоры, якія мы бачым на небе, аднак, прыгледзеўшыся ўважна да неба, можна пераканацца, што ўсе зоры застаюцца на сваім месцы. Значыцца, падаюць ня зоры, а нешта іншае.

Вучоныя ўжо даўно даведаліся, што гэта дробныя кавалкі і часткі, якія плаваюць у безьмежным нябесным абшары. Трапляючы ў верхнія пласты атмосфэры, гэтыя часткі сутыкаюцца з зямлёй, прычым з прычыны таго, што яны ляцяць з надзвычайна вялікай шпаркасьцю, яны вельмі награваюцца і згараюць у атмосфэры, не далятаючы да зямлі. Здараецца і так, што гэтыя мэтэоры (так называюць іх вучоныя) падлятаюць блізка да зямлі і падаюць распалёнымі на зямлю ў выглядзе вялізных каменьняў. Такіх „нябесных каменьняў“, якія называюцца мэтэорытамі, знойдзена шмат і яны захоўваюцца ў музэях. Аб мэтэорытах было вядома яшчэ ў часы сівой старасьветчыны. Сьмяртэльны страх ахопліваў людзей, калі яны бачылі падаючы мэтэорыт. Несьвядомы чалавек думаў, што калі паказаўся мэтэорыт, значыць, здарыцца нешта нядобрае. У мэтэорытах бачылі кару боскую. Аднак навука даказала, што нічога боскага ў мэтэорытах няма. Вывучэньнем мэтэорытаў вучоныя заняліся гадоў 100 таму назад. Цяпер ужо вядома, што ўсе мэтэорыты падзяляюцца на жалезныя і каменныя. Першыя складаюцца з чыстага нікелевага жалеза, другія з хэмічных злучэньняў крэменю.

Пранікаючы ў земную атмосфэру з хуткасьцю да 40 кілёмэтраў у сэкунду, мэтэорыты вельмі распальваюцца і блішчаць нават пры дзенным небе. Тэмпэратура паверхні мэтэорыта, калі ён ляціць, дасягае 10.000 градусаў, г. зн. значна перавышае тэмпэратуру знадворных пластоў сонца.

Мэтэорыты бываюць розных разьмераў. Некаторыя з іх важаць усяго некалькі грамаў, другія-ж—некалькі дзесяткаў тон. Самы буйны мэтэорыт, з усіх вядомых нам дагэтуль, знойдзен у Грэнляндыі і важыць 80 тон.

Вялізны мэтэорыт упаў у 1908 годзе ў раёне ракі Хатангі (у Сібіры). Аб вялізарных разьмерах яго можна меркаваць па апавяданьнях мясцовых жыхароў—тунгусаў. Вось што, напрыклад, апавядаў адзін стары тунгус члену экспэдыцыі, якая езьдзіла шукаць гэты мэтэорыт:

— Раздаўся ўдар грому. Паясы сьвятла вялізныя, яскравыя апяразалі неба. Вогненны віхор спаліў лес і многа, многа аленяў. Векавыя лясы былі павалены на працяжнасьці да 500 вёрст. Грукаты грому звалілі на зямлю людзей. Чумы *) тунгусаў узьляцелі ў паветра. Ад страху з лясоў уцякалі зьвяры і рыбы закопваліся ў рэчны глей.

Адкуль-жа бяруцца мэтэорыты?

Навука яшчэ не дала дакладнага адказу на гэта пытаньне. Адны вучоныя думаюць, што мэтэорыты—гэта асколкі, якія адарваліся ад якой-небудзь плянэты, другія даводзяць, што мэтэорыты ўтвараюцца ад выбухаў на месяцы ці на сонцы, нарэшце, існуе думка аб сувязі мэтэорытаў з камэтамі. Прыхільнікі гэтай думкі даводзяць, што мэтэорыты зьяўляюцца часткамі, якія ўтвараюць сабою комэты.

Віль.



*) Чум—пераносны шалаш.

# СВАІМІ РУКАМІ.

## Дальнамер.

З кожнай скрыні можна зрабіць вельмі цікавую прыладу для вызначэньня адлегласьці да якога-небудзь прадмета— *дальнамер.* У адным баку скрыні робяць невялікую дзірку шпількай, а ў другім праразаюць адтуліну, якая мае форму



лесенкі (гл. малюнак). Найбольшая вышыня гэтай лесенкі павінна быць роўна 1/10 адлегласьці ад сьценкі скрыні, дзе выразаецца лесенка, да сьценкі з дзіркай. Наступная прыступка (ступенька, раўняецца 1/20 гэтай адлегласьці, яшчэ наступная 1/30, потым 1/40, 1/50 і г. д. Зрабеце гэты выраз—і дальнамер гатоў. Паглядзім цяпер праз скрыню, прыставіўшы вока да адтуліны, на які-небудзь прадмет, разьмеры якога нам вядомы (напрыклад, чалавек—сярэдні рост 1,7 мэтру). Калі фігурка чалавека як-раз зьмесь-




ціцца ў прарэзе, роўным 1/30, дык адлегласьць да яго будзе 1,7×30=51 мэтр. На сьценцы скрыні карысна для памяці запісаць разьмеры прадметаў, якія часта сустракаюцца (рост чалавека, каровы, каня, вышыня калёсаў і г. д.).

## Як зрабіць чамадан.

Кожны, хто мае нож і малаток, можа зрабіць добры чамадан. Для гэтага трэба купіць ліст фанеры разьмерам 65×80 см., потым узяць дзьве невялікіх дошчачкі, разьмерам 12×20 см. і зьбіць іх разам двума цьвікамі, але так, каб можна было іх потым лёгка аддзяліць. Ножыкам трэба абрэзаць куты, як паказана на мал. 1 і выпілаваць ці выразаць з аднаго боку выемкі (мал. 2). Потым узяць дошку ў 36 см. даўжынёю, абстругаць яе так, каб яна ўвайшла ў выемкі дошак, і зьбіць усе разам (мал. 3).




Мал. 1.



Мал. 2.

Цяпер трэба ўзяць фанеру, abліць яе гарачай вадой разы са два так, каб яна добра гнулася, і набіваць фанеру на шкілет (остаў) чамадана з абодвух канцоў адначасова, так, каб канцы сашліся як-раз пасярод папярэчнай дошкі. Фанеру да бакавых дошчак прыклейваюць стalярным клеем. Потым цьвікамі прыбіваюць абодва канцы фанеры да дошкі. Адзначыўшы алоўкам адтуліну, дзе



Мал. 3.

будзе накрыўка чамадану, выразаюць яе ножыкам.

З фанеры выразаюць дошчачку крыху большую за адтуліну і яшчэ дзьве доўгія драначкі (такой даўжыні, каб маглі абхапіць увесь бок чамадана) і, распарыўшы іх, набіваюць па бакох чамадана.





Мал. 5.

Потым з фанеры выразаюць рамку, але так, каб накрыўка якраз падыходзіла да рамкі (мал. 5). Цяпер трэба дастаць ці адрэзаць ад старых сандаляў пражкі. Прыбіваюць рамку да чамадана навокал адтуліны, пражкі—па бакох крышкі і рамнямі прыбіваюць накрыўку да рамкі. Ручкі можна зрабіць з рэмню. Чамадан пакрываюць лякам ці маслянай фарбай. Рамку і бакавыя драначкі лепш афарбаваць у іншы колер. Зроблены такім чынам чамадан будзе вельмі лёгкі і досыць трывалы.

### Паходнае крэсла.

Ёсьць некалькі відаў паходных крэслаў, але самае выгаднае крэсла можна зрабіць з трох палак. Выстружам з моцнага дрэва (клён ці бяроза) тры палкі даўжынёю каля 70—80 сантымэтраў і



таўшчынёю каля 2—2½ см. Зробім з дроту колца і ўставім у яго палкі, як паказана на малюнку. Зьверху на канцы палак надзенем пашыты з моцнай парусіны трыкутнік—і крэсла гатова.

## Танны мікраскоп.

Кожны з піонэраў можа зрабіць сам вельмі просты і добры мікраскоп. Для гэтага трэба перш за ўсё ўзяць драўляную шпульку (мал. 1). з аднаго боку яе крыху пашырыць адтуліну ў ёй і зачарніць шпульку ў сярэдзіне (унутры) тушшу. Лепш за ўсё, каб даўжыня шпулькі была 12—18 мілімэтраў.

Да таго канца шпулькі, адтуліна ў якім пашырана, прамацоўваецца кружок B, зроблены з сьлюды ці празрыстага цэллоіда, і другі канец шпулькі залепліваецца чорным кардонам C, у самым цэнтры якога з дапамогаю вельмі тонкае іголкі пракалваецца дзірка Д. Для таго, каб бачыць выразна той прадмет, які будзе разглядацца праз наш мікраскоп, трэба каб дзірка Д была як можна меншай.




Прадмет, які хочуць разглядаць, зьмяшчаюць на празрысты кружок B пры чым апошні трэба крыху змачыць, каб гэты прадмет на ім трымаўся.

Глядзець трэба праз дзірку Д, пры чым неабходна, каб было досыць яркае асьвятленьне і каб разглядаемы прадмет быў празрыстым. (У звычайных мікраскопах разглядаюць таксама толькі празрыстыя прадметы). Крыло мухі, калі паглядзець на яго праз гэты мікраскоп, здаецца з далонь. У кроплі моцнага воцату можна пры дапамозе нашага мікраскопа ўбачыць мноства невялічкіх чарвячкоў. Калі паглядзець праз мікраскоп на кроплю вады, у якой у працягу некалькіх дзён мокла сена, дык у гэтай, здавалася-б чыстай кроплі, лёгка можна ўбачыць сотні інфузорый (мікраскапічныя прасьцейшыя жывёлы).

Такі мікраскоп прыгадзіцца нашым юным натуралістым у іх працы.



# Што чытаць.

**Разам весялей.** — *А. Савёнак.* ДВБ, Старонак 12, цана 40 кап.

Кніжачка выдана для зусім малых дзяцей-дашкольнікаў. У ёй надрукавана поруч з прыгожымі малюнкамі невялічкае апавяданьне з жыцьця дашкольнікаў у дзіцячым садзе. Але-ж, на вялікі жаль, кніжачка каштуе залішне дорага і праз гэта цяжка будзе ёй дайсьці да свайго масавага чытача.

**Варка.** — Апав. *Л. Чарняўскай,* ДВБ, цана 55 к.

Кніжачка таксама, як папярэдняя, выдана для малышоў—дашкольнікаў. Цікавае апавяданьне і добрыя ў фарбах малюнкі адбіваюць у сабе моманты з дзіцячага быту і жыцьця. Для дзяцей гэтая кніжка вельмі патрэбная рэч.

З тэхнічнага боку выданьне ня ўступае лепшым і багатым выданьням Масквы.

**Шэрая шыйка.**—Апавяданьні для дзяцей, ДВБ, цана 40 к.

Зборнічак зьмяшчае ў сабе 4 невялікіх апавяданьні: „Шэрая шыйка“, „Конь і жаба“, „Накармі галодных“, і „Пажарны сабака“.

Апавяданьні падабраны досыць удалыя. Кніжка будзе чытацца дзецьмі малодшага і нават сярэдняга ўзросту.

# Паштовая скрынка.

**Рубановічу.** Твае допісы: „Недахоп у працы“ і „Прыклад вучням“ у часопісі зьмешчаны ня будуць. Напішы ў насьценгазэту аб гэтым.

**Я. К.** Пытаньне, закранутае ў допісе „Плаксівы шэф“, пастаў на абгаварэньне ячэйкі КСМ.

**Мурашку.** Допіс „Атрад расьце“ ня пойдзе. Ты паведамляеш толькі голы факт, што атрад расьце—гэта для чытачоў ня цікава.

**Сухарукаву.** Аб рабоце свайго атраду ты пішаш агульнымі словамі „праца пакрысе наладжваецца“, а што зроблена вашым атрадам канкрэтна, па тваім допісу ня відаць.

**Гарбачову.** Твой допіс „Пачынаем працаваць“ ня будзе зьмешчан па тэй-жа прычыне, што і допіс Сухарукава.

Алесю Баброўніку, А. Азярыцкаму, Пучынскаму, Куноўскаму, Ф. Вянігебергу, Кенінгсбергу, С. Чарановічу, Рубановічу, С. Буракову, В. Рудакоўскаму, І. Пралесцы, А. Шурпіку, У. Шымановічу, А. Грыгор‘яву,—вершы ўсіх пералічаных таварышоў скарыстаны ня будуць з прычыны іх зусім слабай апрацоўкі.

---

# Гульня ў мячыка і ў ямачкі.

Гэтую гульню мы праводзілі так. Выкопваюць ямкі кожнаму і выбіраюць дзьвёх для катаньня мячыка; яны качаюць мячык па ямачках; калі мячык ўкоціцца ў чыю ямку, той б‘е ім у каго ні пападзецца, апрача таго, хто ня гуляе. Апошні б‘е ў другога.

І гэтак б‘юцца ім адзін у аднаго, пакуль хто не прамахнецца.

Таму, хто прамахнецца, кладуць у ямачку кусочак палачкі.

У каго набярэцца дзесяць палачак, той прабягае праз рад стаячых астатніх сяброў гульні, якія стаяць у рад тварам адзін да аднаго, і б‘юць яго вопраткамі.

Тады пачынаюць гульню зноў.

**Міканор Петрачэнка.**



# АБ УСІМ ПАТРОХУ.



### Самалёт—човен.

Французскім інжынэрам нядаўна вынайдзены самалёт - човен, які ляціць з хуткасьцю 76 км. у гадзіну. Гэты самалёт-човен, ці гэтак званы глісэр, прызначаецца для пералётаў праз Атлянтыцкі акіян. Нядаўна адбыліся спробы глісэра, які прайшоў Ляманш (пратоку, што адлучае Францыю ад Англіі) у 26 хвілін. У часе спробы на ім знаходзіліся тры пасажыры і лётнік.

### Казачныя гарады Афрыкі.

Ангельцу Б'юкэнэну ўдалося знайсьці нядаўна вельмі цікавае селішча ў мясцовасьці Вільну ў Афрыцы. Гэта невялікае селішча Фазі, з насяленьнем у сотню душ, калісь было месцам боек паміж рознымі плямёнамі арабаў, якія змагаліся за ўладаньне гэтым мястэчкам.

Фазі выдатны тым, што ўсе яго будовы—сьцены і стрэхі дамоў, цытадэль (крэпасьць) з вежай, высокі вал навокал мястэчка—пабудаваны з солі. Дзякуючы адсутнасьці дажджў, сухасьці клімату, гэтае мястэчка існуе ўжо некалькі дзесяткаў год. Але затое глеба, нагэтулькі насычана сольлю, што прэсную ваду трэба здабываць з студняў глыбінёю да 30—40 мэтраў. Галоўнай ядой жыхароў служыць мяса і малако авечак.

Ня менш цікавы і другі горад—Асубат, аб якім апавядае адзін Швэйцарскі падарожнік.

Ён ляжыць у скалістых гарах і налічвае 10.000 жыхароў. Пачынаючы з пячораў над паверхняй зямлі, гэты горад паступова апускаецца пад зямлю, і ў ім маюцца цэлыя вуліцы, якія ляжаць на дзесяткі мэтраў углыб зямлі. Гэтыя вуліцы добра праветрываюцца і ў іх заўсёды трымаецца роўная прахладная тэмпэратура.

### Крыльлі-волаты.

Толькі раўняючы іншы раз што-небудзь вядомае нам з якой-небудзь вынаходкай апошняга часу, мы можам пачуць заваёвы тэхнікі нашае эпохі. Посьпехі лётніцтва (авіацыі) ува ўсіх перад вачыма, і кожны дзень у гэтай галіне прыносіць што-небудзь новае і зьдзіўляючае.

Добрай меркай гэтых посьпехаў можа служыць параўнаньне хаця-б велічыні крыльляў птушкі і сучаснага новага самалёта Юнкэрса прызначанага для пералётаў праз Атлянтыцкі акіян. Самалёт гэты зьмяшчае ў сабе 100 пасажыраў і чатыры матory на 3.000 конскіх сіл.

Разьмеры яго нагэтулькі вялізны, што каюты і службовыя памяшканьні ўдалося зьмясьціць у сярэдзіне мэталёвага крыла, як гэта паказана на малюнку.



### Аўтобус-волат.

Гэты аўтобус-волат мае ў даўжыню амаль 12 мэтраў, а вышыня і шырыня—каля 2 з паловай мэтраў. Ён зьмяшчае ў сабе 96 пасажыраў і імчыцца з хуткасьцю 45 кл. ў гадзіну.

Па сваёй пабудове аўтобус-волат займае нешта сярэдняе паміж аўтомабілем і трамваем. У аўтамабілі, як ведаюць нашы чытачы, працуе рухавік унутранага згараньня—бэнзынавы матор, у трамваі—электраматор, які атрымлівае электрычны ток з цэнтральнай электрастанцыі.

У аўтобусе-волаце рухавік унутранага згараньня, магутнасьцю 110 конскіх сіл, прыводзіць у рух дынамо-машыну, якая выпрацоўвае электрычны ток. Гэты ток прыводзіць у рух электраматор, які, з дапамогаю зубчатай перадачы, круціць колы аўтобуса. Такім чынам, гэты аўтобус ёсьць сапраўдная электрычная станцыя.

Важыць гэты аўтобус блізка 9 тон і ўжываецца для абслугоўваньня курортаў у Амэрыцы.



Цана 12 кап.



## Жарты.

— Ты, здаецца, у спраўдоме сядзеў?
— Сядзеў.
— А за што?
— За глупства: за катар.
— Як-жа так?!
— А вось, уначы залез у чужую кватэру, чыхнуў і—папаўся...

Прышло лета. Трэба было йсьці касіць. Вось сын і кажа да бацькі:

— Ты, бацька, стар, любіш пар: ідзі касіць. А я молад, люблю холад: пайду ў цянёчак.

А калі ад бацькавай касьбы не хапіла зімой корму, тады бацька зьвярнуўся да сына:

— Я стар, люблю пар: палезу на печ грэцца.

А ты молад, любіш холад: ідзі касіць.

## Як зьняць корак?

Перад вамі бутэлька, якая заткнена коркам. У корку ўваткнены пруцік (кавалак драціны). На гэтым пруціку надзеты невялікі кружок з корка, які плавае свабодна на паверхні вады (гл. малюнак). Як зьняць кружок з пруціка, ня вымаючы корка з пруцікам з бутэлькі?



## Задача-монограма № 1.

1) •••• а Першая бывае на стале ў час абеду.
2) ••• а Другая ёсьць у лесе.
3) •• ж Трэці—з першых на стале ў час абеду.
4) ••• н Чацьвертае—імя.
5) ••• ы Па пятым сьпяваюць розныя сьпевы.

А калі прачытаць першыя літары гэтых слоў, то атрымаецца прозьвішча правадыра.

## Задача № 2.

Да якога геомэтрычнага цела і які займеньнік трэба дадаць, каб атрымаць мужчынскае імя?

(Караткевіч А.).



*Якія гэтыя кругі: кантовыя ці круглыя?*

## Адказы на задачы, зьмешчаныя ў № 2—6.

№ 2. Як паставіць коняй?—

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| с | е | м | к | о | н | я | й |

Задачы—жарты: 1) літара „С", 2) май, бо ён мае ўсяго тры літары; 3) адзін, бо другі абаранак будзе зьедзены ўжо ня нашча; 4) мокрыя.

3. Задача—жарт.—Зоя (30 я). Рэбус—Захавай сваё здароўе. **Колькі кубікаў?**—Адказ можа быць дваякі, гледзячы як вачам здасца: ці адзін унізе, два ўверсе, ці наадварот.

1-ая друкарня БДВ. Заказ № 1964. У ліку 3.200 Галоўлітбел № 986.